**НАКАЗАЛЬНЫМІ ВЫСТУПЛЕННЯМІ АДЗНАЧЫЛІ ДЗЕНЬ ДЭСАНТНІКА БАЙЦЫ 5-Й БРЫГАДЫ СПЕЦЫЯЛЬНАГА ПРЫЗНАЧЭННЯ**
Стар. 2.

**ЖЫЦЦЁВЫЯ СЮЖЭТЫ**
МІСІЯ Клайна РАСЕЛА — "ЛЮБОЎ У ДЗЕЯННІ"
Стар. 3, 6.



**З БУДУЧАЙ ЭНЦЫКЛАПЕДЫІ РЭПРЭСІРАВАНЫХ ЛІТАРАТАРАЎ**
"ЛІСТ З ТАГО СВЕТУ" Юлія ТАЎБІНА
Стар. 5.

**УРАЖАННІ**
Васіль ЖУКОВІЧ АБ КНІЗЕ "КАСТУСЬ КАЛІНОЎСКІ. ЗА НАШУ ВОЛЬНАСЦЬ"
Стар. 4—5.



**БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ**
Стар. 6.

**АСОБА**
РЭЖЫСЁР І ІНСЦЭНІРОЎШЧЫК СОФ'Я ГУРЫЧ АЖЫЦЦЯВІЛА БОЛЬШ ЗА 200 ПАСТАНОВАК РАДЫЁСПЕКТАКЛЯЎ
Стар. 7.

**ДЭБЮТ Юры РАДНОВА**
Стар. 8.



**АГУЛЬНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА** | **РАСПАЎСЮДЖВАЕЦЦА Ў 48 КРАІНАХ**

# Голас Радзімы

26 жніўня 1999 года
Цана 20 000 рублёў

№ 34

Штотыднёвая газета для суайчыннікаў за межамі Беларусі
Выдаецца з 1955 г.

## ДА 60-годдзя ЎЗ'ЯДНАННЯ НАЦЫ




**ДЕКЛАРАЦИЯ**
**Народного Собрания Западной Белоруссии о вхождении Западной Белоруссии в состав Белорусской Советской Социалистической Республики**
ПРИНЯТА ЕДИНОГЛАСНО НА ЗАСЕДАНИИ 29 ОКТЯБРЯ 1939 г.

В тяжелый час, грозивший разорением и истреблением нашему народу, великий Советский Союз взял под свою защиту жизнь и имущество населения Западной Белоруссии.

С помощью непобедимой Рабоче-Крестьянской Красной Армии народы Западной Белоруссии освободились от господства помещиков и капиталистов. Навсегда миновали черные годы унижения белорусского народа под игом польских панов, попиравших элементарные права и национальное достоинство белорусского народа.

Трудящиеся Западной Белоруссии всегда считали себя связанными неразрывными, кровными узами со своими братьями, построившими Советскую Социалистическую Белоруссию.

Трудящиеся Западной Белоруссии решительно требуют воссоединения доныне расчлененных двух частей единого белорусского народа, единой белорусской земли.

Считая волю белорусского народа высшим законом, Белорусское Народное Собрание постановляет:

Просить Верховный Совет Союза Советских Социалистических Республик и Верховный Совет Белорусской Советской Социалистической Республики принять Западную Белоруссию в состав Советского Союза и Белорусской Советской Социалистической Республики, воссоединить белорусский народ в едином государстве и положить тем самым конец разобщению белорусского народа.

Только в составе Белорусской Советской Социалистической Республики народ Западной Белоруссии сумеет залечить глубокие раны, нанесенные ему долгими годами порабощения и с помощью великого Советского Союза поднять и преобразовать хозяйство, развить свою народную культуру, достойную свободного народа, и обеспечить расцвет благосостояния всех трудящихся Западной Белоруссии.

Да здравствует Белорусская Советская Социалистическая Республика!

Да здравствует наша могучая родина — великий Союз Советских Социалистических Республик!

Не проста далучэнне заходняй часткі Беларусі да БССР, а ўз'яднанне нацыі — менавіта пад такім дэвізам пройдуць сёлета ўрачыстасці, прысвечаныя гэтай падзеі. 17 верасня споўніцца роўна шэсцьдзесят гадоў з таго дня, калі вялікая беларуская сям'я зноў сабралася разам.

Аргкамітэт па правядзенню святочных мерапрыемстваў, які ўзначальвае кіраўнік Адміністрацыі Прэзідэнта Міхаіл Мясніковіч, лічыць, што з гэтага моманту новы магутны імпульс да далейшага развіцця атрымалі не толькі тыя вобласці, якія ўвайшлі ў склад БССР, але і ўся рэспубліка ў цэлым. Таму пры правядзенні мерапрыемстваў будзе ўлічвацца менавіта гэты аспект.

У прыватнасці, на ўрачысты сход, які пройдзе ў будынку Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі, будуць запрошаны прадстаўнікі ўсіх абласцей рэспублікі.





* * *

Заходняя частка Беларусі, якая ў выніку савецка-польскай вайны 1920 года і згодна з Рыжскім мірным дагаворам 1921 года знаходзілася ў складзе Польшчы, у верасні 1939 года была вызвалена. За два тыдні польска-германскай вайны, якая пачалася 1 верасня 1939 года, Польшча пацярпела паражэнне. Польскі ўрад уцёк за граніцу. У гэтых абставінах па распараджэнню савецкага ўрада 17 верасня Чырвоная Армія перайшла мяжу Польшчы і ўзяла пад ахову насельніцтва Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны.

У выніку выбараў, што прайшлі 22 кастрычніка 1939 года, былі абраны дэпутаты Народнага сходу Заходняй Беларусі, які стаў правамоцным органам улады. 29 кастрычніка на яго пасяджэнні была аднагалосна прынята Дэкларацыя аб уваходжанні Заходняй Беларусі ў склад БССР.

НА ЗДЫМКАХ: 1939 год. У зале пасяджэння Народнага сходу Заходняй Беларусі; Дэкларацыя Народнага сходу Заходняй Беларусі аб уваходжанні ў склад БССР, прынятая аднагалосна 29 кастрычніка 1939 года; 28 кастрычніка 1939 года, Беласток. Сяляніі-дэпутаты Народнага сходу Заходняй Беларусі; 1939 год. Група беларускіх пісьменнікаў (у цэнтры Я. Купала і Я. Колас) у час перадвыбарнага сходу ў гарадскім тэатры.

**Фота з архіва БелТА.**

## ФОТАФАКТ



**У храме Святых Роўнаапостальскіх Мяфодзія і Кірылы ў Віцебску на іконе "Госпадзь Вседержитель" выступілі невялікія кропелькі масла. Першым заўважыў гэта настаяцель храма іерэй Аляксандр Сіроткін, затым і іншыя свяшчэннаслужыцелі. Архіепіскап Віцебскі і Аршанскі Дзімітрый засведчыў з'яву. Ікона "Госпадзь Вседержитель" напісана прыкладна ў XVIII—XIX стагоддзях, у беларускім стылі.**

## У НАСТУПНЫХ НУМАРАХ

▶ **"АРФЕЙ ВЯРТАЕ ЭЎРЫДЫКУ"**
Творчы партрэт паэта Сяргея ЗАКОННІКАВА.

▶ **"КНЯЗЬ-ПІЛІГРЫМ"**
Сёлета спаўняецца 450 год з дня нараджэння Мікалая Крыштофа РАДЗІВІЛА. Яго называлі некаранаваным каралём Літвы і Беларусі, ён мог дазволіць сабе сказаць у вочы манарху: "Ты, кароль, у Кракаве вышэйшы, але я ў Нясвіжы галоўны".

▶ **"ВАМІ ЦЯПЕР Я ЖЫВУ БОЛЬШ, ЧЫМ САМІМ САБОЮ"**
17 апошніх лагерных пісьмаў Адама БАБАРЭКІ.

▶ **ВАНДРОЎКА З ІГАРАМ ГАТАЛЬСКІМ У РУСІНАВІЧЫ**

## КАЛЕЙДАСКОП НАВІН

ГАСЦЯВЫЯ "ВОКНЫ" НА ГРАНІЦЫ. Узгоднены першыя пяць пунктаў спрошчанага пропуску для насельніцтва на дзяржаўнай граніцы Беларусі і Украіны.

У Лельчыцкім раёне ствараюцца тры такія пункты — Глушкавічы, Запясочча, Дзяржынск, у Ельскім — Падгалле, у Нараўлянскім — Аляксандраўка. У хуткім часе будуць адкрыты падобныя пункты ў Лоеўскім, Гомельскім і Добрушскім раёнах Гомельскай вобласці.

Узаконенымі "вокнамі" на граніцы могуць карыстацца толькі жыхары прыгранічных раёнаў. Каб наведаць сваякоў ці знаёмых, дастаткова мець пры сабе пашпарт з прапіскай у пагранічнай зоне. Пункты спрошчанага пропуску будуць функцыяніраваць з 8 да 20 гадзін у перадвыхадныя, выхадныя і святочныя дні.

ПІЦЕРСКІ БІЗНЕСМЕН З ПРУЖАН. Мікалай Бурноў нядаўна атрымаў вялікія плошчы ў Пружанскім раёне для пабудовы сучаснай свінафермы на тысячу галоў і кароўніка на 200 галоў. Ужо завяршаецца будаўніцтва карпусоў, і германская фірма "Вестфалія" пачала пастаўляць абсталяванне.

Гаспадар — дарэчы, ураджэнец пружанскіх мясцін — заняўся добрай справай: атрымання з малаком маці працоўныя звычкі нашых людзей і таму гатовы даверыць сваіх будучых кароў і свіней толькі класным спецыялістам, маючы намер пасляць персанал на стажыроўку ў Галандыю. У раённым жа цэнтры Мікалай Бурноў задумаў увекавечыць сябе ўзвядзеннем супермаркета, будаўніцтва якога ідзе поўным ходам.

МАЛАНКА-СНАЙПЕР. Літаральна "пад бамбардзіроўку" трапіла нядаўна тэрыторыя Брэсцкай вобласці.

Доўгачаканая змена гарачыні навальнічнымі лівнямі не зрабіла шкоды Брэсту, затое ў рэгіёне было зарэгістравана восем пажараў ад маланкі. Агонь паліў сена, дахі, хлявы. Каля Брэста маланка трапіла ў гараж каля жылога цаглянага дома ў вёсцы Кацельня-Баярская.

## СПОРТ

ГАНДБОЛ. Армейская гандбольная зборная Беларусі, цалкам складзеная з ігракоў мінскага СКА, дабілася тытула мацнейшай каманды на другіх сусветных ваенна-спартыўных гульнях.

ВОДНЫЯ ЛЫЖЫ. Беларускі воднальжнік Алег Дзевятоўскі заваяваў сярэбраны медаль у камбінацыі на чэмпіянаце Еўропы (возера Лент-ла-Ран, Бург-ан-Брэсе). Наш суайчыннік па суме ўсіх відаў саступіў толькі мінулагодняму чэмпіёну свету французу Патрысу Мартэну.

БОКС. Нядаўна ў сталіцы Тайланда Бангкоку прайшоў бой за званне чэмпіёна свету сярод прафесіяналаў па тайландскаму боксу. З вядомым байцом са Швецыі Йорганам Крутам змагаўся наш Аляксей Ігнашоў. 21-гадовы спартсмен з мінскага клуба "Чынук" у пяці раўндах аказаўся мацнейшым за вопытнага праціўніка.

Аб прызнанні Ігнашова як байца гаворыць і той факт, што Аляксея запрасілі ў праціўнікі легендзе тайландскага бокса Робу Каману на яго развітальны бой.

А з 19 па 22 жніўня Беларуская федэрацыя кікбоксінга і тайландскага бокса праводзіць адкрыты Кубак свету "Беларускі Кубак", які пройдзе ў рамках міжнароднай акцыі "Спорт супраць наркаманіі і дзіцячай злачыннасці". Плануецца ўдзел спартсменаў з Расіі, Украіны, Малдовы, Эстоніі, Аўстраліі, Германіі, Польшчы і Грузіі.




**Атакуе беларускі гандбаліст Аляксей УСІК.**



Венгрыя, Польшча і Чэхія. Не сталі разглядаць Славакію і як перспектыўнага кандыдата на ўступленне ў Паўночнаатлантычны альянс. Цяпер члены дзяржаў Вышаградскай групы выступаюць у падтрымку Славакіі ў яе імкненні разам з іншымі дзяржавамі-суседзямі стаць паўнапраўнымі членамі Еўрасаюза.

Варта адзначыць, што са зменай кіраўніка дзяржавы ў гэтым плане з'явіліся абнадзейваючыя моманты. Новая ўлада заявіла, што мае намер у поўным аб'ёме прытрымлівацца ў многіх пытаннях еўрапейскіх стандартаў. Гэта, спадзяюся, адаб'ецца на развіцці ўсебаковых сувязей Славакіі не толькі ў еўрапейскім рэгіёне.

Не менш важная задача, што стаіць перад новай уладай Славакіі, заключаецца ва ўрэгуляванні спрэчных пытанняў, якія маюць месца ў адносінах са старой уладай і яе прыхільнікамі, што з'яўляюцца цяперашняй апазіцыяй. Пра важнасць данай акалічнасці сведчыць той факт, што Р. Шустэр, які перамог на выбарах, набраў крыху больш за 57 працэнтаў галасоў, у той час як яго апанент ад былой кіруючай кааліцыі Уладзімір Мечыар — каля 43 працэнтаў. Гэта сведчанне таго, што і пераможцы, і пераможаныя маюць рэальнае ўяўленне, што ні адзін з бакоў поўнасцю не кантралюе галасы ў грамадстве. А значыць, для дасягнення агульных мэт неабходны рэалістычны падыход і канструктыўны кампраміс. І ў даным выпадку прэзідэнт, якімі б функцыямі ён ні быў надзелены па Канстытуцыі, павінен адыграць ролю галоўнай кансалідуючай сілы ў краіне. У сувязі з чым кіраўнік вышэйшага заканадаўчага органа краіны — Нацыянальнага Сходу Юзэф Мігаш заявіў, што "парламент будзе падтрымліваць асабіста прэзідэнта на яго збліжэнне з апазіцыяй".

У Славакіі ўжо прыйшлі да разумення, што і ўлада, і апазіцыя маюць патрэбу адзін у адным. Ім неабходны дыялог, кампраміс і цярпімасць.

**— Ці мае намер Славакія адкрыць у Беларусі сваё пасольства?**

— У знешнепалітычным ведамстве Славакіі такія планы ёсць. Мы сапраўды зацікаўлены ў адкрыцці поўнамаштабнага пасольства ў Мінску. Для гэтых мэт хацелі б набыць ва ўласнасць памяшканне ў беларускай сталіцы ў кошт пагашэння запазычанасці, якую Беларусь мае перад Славакіяй. Мы ўжо звярнуліся да беларускіх уладаў з падобнай прапановай. У сваю чаргу, спадзяемся на ўзаемнасць, таму што ў беларусаў у Браціславе пакуль няма свайго дыпламатычнага прадстаўніцтва.

**ЖЫЦЦЁВЫЯ СЮЖЭТЫ**

# ЛЮБОЎ У ДЗЕЯННІ

*Не кожны зможа адказаць, якая яго місія, для чаго ён народжаны. Амерыканец Клайн Расел ведае: яго прызначэнне — дапамагаць бліжняму вылечваць душу і цела. Лёс прывёў яго, урача па прафесіі, у Беларусь. І разам з жонкай Сьюзен, двума сынамі і дзвюма дочкамі, шматлікімі сябрамі ён робіць усё магчымае, каб усяляць у сэрцы хворых, пакінутых бацькамі дзяцей веру і надзею, дапамагае ўмацаваць здароўе і ўпэўненасць у жыцці.*

*Расел верыць: хрысціяне ўсіх канфесій — праваслаўныя, каталікі, пратэстанты — выконваюць запаведзь Хрыста: "Няхай будуць усе адзінымі!", і аб'ядноўваюцца для служэння агульным высакародным мэтам. Клайн Расел таксама лічыць, што любоў да бліжняга павінна быць дзейснай. Адсюль і назва заснаванай і ўзначальваемай ім місіі наколькі паэтычная, настолькі і канкрэтная — "Любоў у дзеянні".*



**— Клайн, раскажыце, калі ласка, пра сябе, пра сваю сям'ю.**

— Я нарадзіўся ў сям'і пастара ў Аклахоме, скончыў там каледж, а потым паехаў вучыцца ў вышэйшую навучальную медыцынскую ўстанову ў Чыкага.

Мой бацька быў чалавекам рознабаковым. Ён многае мог зрабіць, займаўся вынаходніцтвам, будаўніцтвам. На маё рашэнне стаць місіянерам, як мне здаецца, паўплывала не столькі тая акалічнасць, што бацька быў пастарам, колькі ход падзей майго жыцця.

Пасля заканчэння вучобы ў Чыкагскім медыцынскім інстытуце я актыўна заняўся стаматалагічнай практыкай, але думка аб місіянерскай дзейнасці мяне не пакідала.

Мая сям'я прыехала ў Беларусь у лютым 1994 года. Наша місія пачала аказваць садзейнічанне ў пастаўцы ў вашу краіну гуманітарнай дапамогі: медыкаментаў, прадуктаў харчавання, што пасылаліся жыхарам Беларусі амерыканскімі цэрквамі і людзьмі, якія шчыра жадалі падтрымаць беларусаў матэрыяльна і маральна ў постчарнобыльскі перыяд, які супаў з часам складанай эканамічнай перабудовы. Робячы гэта, развозячы лякарствы і медыкаменты, мы наведвалі розныя бальніцы, паліклінікі, дзіцячыя дамы. Непасрэдна на месцы бачылі, у чым канкрэтна маюць патрэбу людзі. У асноўным гэта былі лекі. Яшчэ мы выявілі, што дзецям, асабліва ў дзіцячых дамах і інтэрнатах, нестае клопату і любові.

І вельмі важна было для гэтых пакінутых у большасці сваёй бацькамі хлопчыкаў і дзяўчынак ведаць, што існуе Гасподзь, які клапоціцца пра іх і хоча быць сапраўдным Бацькам для іх, які нікол і іх не кіне.

Мы хацелі падарыць дзецям радасць. Гэта навяло нас на думку арганізаваць свой тэатр. У нашых спектаклях занята пятнаццаць маладых людзей, якія імкнуцца падзяліцца цяплом гарачых сэрцаў і духоўным святлом з пакінутымі дзецьмі. Нашы акцёры ў маляўнічым убранні з яркімі і прыгожымі лялькамі разыгрываюць пантамімы на біблейскія сюжэты. Дзеці з задавальненнем і вялікай цікавасцю глядзяць прадстаўленні, дзе дабро і справядлівасць перамагаюць зло. У час паездак мы прывозім неабходныя лекі і медыкаменты.

**— Дзе выступаў ваш тэатр?**

— Мы пабывалі ў Віцебскай і Гомельскай абласцях. Многа ездзім па Мінскай. Паступова пра нас даведваюцца. Многія хочуць, каб мы прыехалі зноў, звоняць нам, запрашаюць наведаць яшчэ і яшчэ. Рэгулярна выступаем у Ждановічах — у рэабілітацыйным цэнтры для дзяцей, якія пацярпелі ад чарнобыльскай катастрофы.

**— Што яшчэ ўваходзіць у кола вашых клопатаў? Што з задуманага ўдалося ажыццявіць?**

— Важны абмен вопытам паміж беларускімі і амерыканскімі спецыялістамі. Я імкнуся, каб як мага больш добрых урачоў з ЗША змагло прыехаць у Беларусь і перадаць свае веды і практычныя навыкі беларускім калегам і адначасова пазнаёміцца з напрацоўкамі вашых медыкаў. Першы раз вялікая група амерыканскіх дактароў прыязджала ў 1994 годзе і прывезла буйную партыю медыкаментаў і гуманітарнай дапамогі. Яны правялі семінары і лекцыі на найбольш важныя і актуальныя тэмы медыцыны, паказвалі, як трэба карыстацца тымі медыцынскімі прэпаратамі, што былі дастаўлены ў Беларусь.

Я сам працаваў на працягу года ў адной з мінскіх паліклінік, аказваючы бясплатную дапамогу як дантыст усім, хто да мяне звяртаўся. Да мяне прыходзілі беларускія стаматолагі, каб пазнаёміцца з амерыканскай методыкай лячэння.

**— Якое меркаванне ў вас склалася аб беларускіх урачах?**

— Беларускія ўрачы падобныя да амерыканскіх. Як і ўсюды, у Злучаных Штатах ёсць дактары, якія клапоцяцца аб пацыентах, адданыя сваёй працы, і ёсць такія, хто не ўкладвае душу ў тое, што робіць. Адрозненні ж паміж намі існуюць у тым, што называецца прагрэсам у галіне медыцыны. Але ў апошнія пяць гадоў у вас адбыліся вялікія змены, аб'ём інфармацыі звонку значна расшырыўся.

**— Ваша місія называецца "Любоў у дзеянні". Каму належыць гэтая ідэя? Хто працуе ў вашай місіі?**

— Назву прыдумаў я. А працуе ў місіі васемнаццаць чалавек. Большасць з іх — беларусы. Асноўная частка супрацоўнікаў — урачы. Усе мы хрысціяне, але нехта з нас праваслаўны, нехта каталік, нехта пратэстант.

**— Самы буйны ваш праект, які ўдалося ажыццявіць?**

(Заканчэнне на 6-й стар.).

*Да 40-годдзя з дня адкрыцця Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа*

# У ДОМІКУ ПАД ХВОЯМІ

У Мінску ёсць маляўнічы куток. Сярод сосна́ў, клёнаў, бяроз і яблынь стаіць прыгожы двухпавярховы будынак. Раней на гэтым месцы стаяла драўляная хата. У ёй і пасяліўся Якуб Колас з сынамі пасля Вялікай Айчыннай вайны. Тут было тры пакоі, невялічкая кухня, адкрытая веранда. У другой палове 1946 года зрабілі прыбудову, дзе цяпер канцылярыя і рабочы кабінет паэта, а ў 1952 годзе знеслі хату з бярвення, а на месцы яе па праекту архітэктара Георга Забродскага муляры ўзвялі двухпавярховы будынак. Атрымаўся асабняк, плошча якога склала 315 квадратных метраў. Усе пабудовы з домам, дзе цяпер жыве малодшы сын паэта і сям'я старэйшага, размяшчаюцца на 45 сотках зямлі (вул. Францішка Скарыны, 66-а). Тут і жыў Якуб Колас з двума жанатымі сынамі да канца сваіх дзён, закончыў паэму "Рыбакова хата", трылогію "На ростанях", пісаў вершы, артыкулы, апавяданні, многа ўвагі аддаваў роднай мове.

Домік цесна абступілі дрэвы, пасаджаныя рукамі песняра. Ля ганка растуць кветкі. Задуменныя яліны ўзнімаюць у неба сіняватыя кроны.

У 1945 годзе, калі Якуб Колас вярнуўся з эвакуацыі ў Мінск, кветак і дрэў на гэтым месцы было не так шмат. Хутка тут усё непазнавальна змянілася. З Лошыцкага плодагадавальніка прывезлі саджанцы яблынь, вішняў, чарэшняў, сліў, груш, кусты агрэсту, парэчак, малін. Прыбавілася шмат дэкаратыўных дрэў і кустоў — ліпы, клёны, каштаны, срэбраныя елкі, арэхі, спірэя, снежная ягада, барбарыс, айва, бэз, язмін, ружы, нават вінаград і інш. Тут раслі і кветкі — півоні, касачы, ліліі, макі ўсходнія, флёксы, вяргіні. Сёння таксама квітнеюць півоні, касачы, нарцысы, цюльпаны.

Сядзіба добраўпарадкоўвалася. На лаўцы, якая стаіць пад велізарнымі цяпер дрэвамі, яго любімым вязам, часта сядзеў, адпачываў, гутарыў з сябрамі гаспадар сядзібы. Непадалёку ад вяза быў досведны ўчастак "дзядзькі Якуба". У свой час народны паэт звярнуў увагу на апублікаваную ў дакастрычніцкім часопісе "Полацка-Віцебская старына" заметку, у якой апісваўся адзін са спосабаў пасеву ячменю і азімага жыта. Гэты спосаб прыцягнуў увагу пісьменніка, і ён вырашыў праверыць яго на сваім участку. Вопыт даў станоўчы вынік. Якуб Колас пісаў потым пра свой эксперымент у газеце "Сельское хозяйство".

Пры жыцці народнага паэта ў доміку заўсёды было шмат людзей: прыходзілі пісьменнікі, настаўнікі, літаратары, сябры. Жаданымі гасцямі былі Міхась Лынькоў і Максім Лужанін, Пятрусь Броўка і Пятро Глебка, Кандрат Крапіва і Янка Маўр, Максім Танк і Аркадзь Куляшоў, заходзілі і больш маладыя сябры — Пімен Панчанка, Іван Шамякін, Андрэй Макаёнак.

Не забывалі Якуба Коласа літаратары з іншых рэспублік, калі прыязджалі ў Мінск на юбілейныя вечары, святы. Яны знаходзілі тут шчыры прыём. У гэтым доміку пад соснамі пабывалі Сяргей Гарадзецкі, Пятро Сямынін, Аляксандр Фадзееў, Аляксандр Твардоўскі, Міхаіл Ісакоўскі, Аляксей Суркоў, Мікалай Грыбачоў, Анатоль Сафронаў, Сяргей Міхалкоў, Алесь ГаНчар, Мікалай Браўн, Марыя Камісарава, Тарэнь Масэнка, Мікола Нагнібеда, Іван Сокалаў-Мікітаў, Емяльян Букаў, Сцяпан Алейнік і іншыя пісьменнікі.

Часта заходзілі наведвальнікі да Канстанціна Міхайлавіча і як да дэпутата Вярхоўнага Савета. Пісьменнік-грамадзянін заўсёды імкнуўся дапамагчы людзям, апраўдаць высокі давер народа.

З цягам часу стан здароўя Якуба Коласа пагаршаўся. За апошнія дзесяць гадоў жыцця ён больш за 26 разоў хварэў на запаленне лёгкіх. А працаваў напружана. Гэтага патрабавалі пасады віцэ-прэзідэнта Акадэміі навук Беларусі, дэпутата, члена Камітэта па Дзяржаўных прэміях і Усесаюзнага, старшыні Рэспубліканскага камітэта абароны міру, члена многіх часовых камітэтаў і камісій.

У 1947 годзе народнаму паэту пачаў дапамагаць Максім Лужанін. Ён стаў сакратаром па ўсіх пытаннях дзейнасці Якуба Коласа. Пісьменнікі пасябравалі. Лужанін штодзённа бываў у доме песняра, сустрэчы і размовы з ім далі магчымасць напісаць кнігу пра жыццё і дзейнасць паэта "Колас расказвае пра сябе".

Цяпер у доме музей, які адчыніў свае дзверы 4 снежня 1959 года. Ён займае 11 пакояў. Ёсць і пунька, дзе любіў адпачыць на сене пясняр, гараж з Коласавай машынай "Победа", лазня, а таксама невялікія музейныя склады. Экспазіцыя знаёміць з жыццёвым і творчым шляхам класіка беларускай літаратуры. Тут выстаўлены шматлікія дакументы, фатаграфіі, карціны мастакоў, творы самога пісьменніка, яго асабістыя рэчы.

У адным з пакояў наведвальнікі могуць атрымаць уяўленне пра цудоўныя мясціны, дзе нарадзіўся і правёў дзіцячыя гады будучы паэт і адкуль бяра пачатак Коласава песня, — Акінчыцкую камору, месца нараджэння песняра, а таксама маляўнічыя ваколіцы лесніковак Ласток і Альбуць, той прыгожы свет, які пазнаў ён у маленстве, дзе слухаў з вуснаў маці чароўныя казкі, легенды, паданні, вучыўся чытаць, пісаць, атрымаў першапачатковую адукацыю ў вясковага "дарэктара".

У экспазіцыі музея выстаўлены першыя выданні твораў Якуба Коласа — "Песні жальбы", "Родныя з'явы", "Нёманаў дар", "Апавяданні", кніга "Другое чытанне для дзяцей беларусаў".

(Заканчэнне на 4-й стар.).

СВЯТА ПАЭЗІІ




**Свята паэзіі "Ракуцёўшчына-99" прайшло на радзіме Максіма Багдановіча. Прысутныя з цікавасцю азнаёміліся з экспанатамі музея-сядзібы, паслухалі выступленні паэтаў, бардаў, самадзейных калектываў з Мінска і Маладзечанскага раёна.**

КУМІР ОПЕРНАЙ СЦЭНЫ

# УЗЫХОДЖАННЕ СЯРГЕЯ ФРАНКОЎСКАГА

Сяброўка маёй жонкі моцна захапілася гэтым чалавекам. Прадстаўнік старажытнага роду Рэчы Паспалітай Сяргей Франкоўскі нарадзіўся трыццаць сем гадоў таму ў Магілёве. З малых гадоў яго вабіў чароўны свет музыкі. Калі ў сям'і адбывалася якое-небудзь свята, хлопчык ахвотна спяваў і танцаваў. Ужо тады ўзнагародай маленькаму артысту былі апладысменты. Вялікі ўплыў на Сяргея зрабіў дзед Іларыён Пашуцін, які меў добры тэнар і граў на сямiструннай гітары.

Падчас службы ў войску хлопец навучыўся граць на гармоніку. Пасля арміі Сяргей працаваў на будоўлі, гадзіннікавым майстрам, токарам, а ў вольны ад працы час і святочныя дні падрабляў на вяселлях і імянінах і лічыўся лепшым у Магілёве выканаўцам народных песень. Усведамленне сваёй выключнасці прыйшло да яго не адразу. На адным з вяселляў нехта з тых, хто быў зачараваны голасам Сяргея Франкоўскага, параіў паступіць вучыцца ў кансерваторыю.

У 1985 годзе Сяргей пачаў сваю адукацыю ў вакальнай студыі выпускніцы Маскоўскай кансерваторыі і таленавітага педагога, чароўнага і прыгожага чалавека Людмілы Брайлоўскай. А праз год паступіў у Маскоўскую кансерваторыю нягледзячы на конкурс 30 чалавек на месца. Прыёмная камісія была проста зачараваная арыяй Лорыса з оперы "Фядора", якая лічылася даволі складанай у асяродку прафесіяналаў. У Маскве Сяргей трапіў у клас вядомага саліста Вялікага тэатра Яўгена Кіпкала. Правучыўся толькі год, а потым нечакана кінуў кансерваторыю. Ці можна знайсці словы, каб пераказаць перажыванні бацькоў — Людмілы Іларыёнаўны і Валянціна Акімавіча?! Праз некаторы час будучы кумір беларускай оперы быў прыняты ў Беларускую кансерваторыю.

І вось першыя перамогі: Сяргей Франкоўскі стаў лаўрэатам конкурсу вакалістаў імя Л. П. Александроўскай (1991), а потым лаўрэатам конкурсу імя С. Я. Лемешава (1993). У гэтым жа годзе Сяргей быў прыняты ў Нацыянальны тэатр оперы і балета Беларусі як саліст оперы першай катэгорыі. Лірыка-драматычны тэнар таленавітага магіляўчаніна не застаўся без увагі сталічных карыфеяў. У 1997 годзе Сяргей Франкоўскі атрымаў "магістарскія пагоны".

Усе гэтыя гады мудрым настаўнікам Сяргея Франкоўскага быў прадстаўнік беларускай опернай школы, цудоўны чалавек і аўтарытэтны педагог-практык Леанід Івашкоў.

У мінулым годзе Сяргей Франкоўскі стаў вядучым майстрам беларускай опернай сцэны. Усё ярчэй і ярчэй разгараецца яго зорка. У выкананні магілёўскага самародка прагучалі такія складаныя партыі, як Альфрэд Жэрмон у "Травіяце", герцаг Антуанскі ў "Рыгалета" Дж. Вердзі, Дон Карлас у "Дон Карласе", Турыду "У вясковым гонары" Маскані, Каніо ў "Паяцах", Уладзімір Ігаравіч у "Князі Ігары" Барадзіна, Самазванец у "Барысе Гадунове" М. Мусаргскага, Пінкертон у "Мадам Батэрфляй" Пучыні. Опернае майстэрства унікальнага беларускага тэнара было прадэманстравана за мяжой падчас гастролей беларускай оперы ў Турцыі, Швейцарыі, Германіі, Іспаніі, ЗША...

Надзейным тылам зорнага спевака з'яўляецца сям'я: прыгажуня жонка Вольга і пяцігадовая дачка Алеся. А яшчэ ў магілёўскага самародка ёсць хобі — майстраваць гармонікі. Што хацелася б пажадаць куміру беларускай оперы? Каб яголая творчая зорка многа год зіхацела на сцэне...

**Аляксей ШАЛАХОЎСКІ.**

# У ДОМІКУ ПАД ХВОЯМІ

(Заканчэнне.
Пачатак на 3-й стар.).

Прыцягваюць увагу шматлікія фотаздымкі мясцін, дзе паэт працаваў пасля заканчэння настаўніцкай семінарыі, партрэты маці, братоў і сясцёр песняра.

А вось і рабочы кабінет паэта з вокнамі ў сад. Тут ён пісаў, адпачываў, прымаў наведвальнікаў. На рабочым стале — невялічкі бронзавы бюст Пушкіна, чарнільны прыбор у выглядзе дубовых пянькоў, ляжыць незакончанае пісьмо літаратару Яўгену Мазалькову, датаванае 13 жніўня 1956 года — днём смерці песняра.

Супрацоўнікі музея няспынна вядуць пошукі новых матэрыялаў. З часу адкрыцця набыты сотні пісьмаў Якуба Коласа і фотаздымкаў пісьменніка. Напрыклад, у свой час атрыманы пісьмы ад Петруся Броўкі, Пятра Глебкі, Міхася Лынькова, Паўла Кавалёва і іншых пісьменнікаў, перададзеныя ў музей іх адрасатамі, з цікавымі звесткамі аб рабоце над творамі "Новая зямля", "Рыбакова хата", "На шляхах волі", "На ростанях", "Суд у лесе", "Адплата".

З часу адкрыцця музей наведалі тысячы экскурсантаў. "Мы мелі шчасце бываць у гэтым доме яшчэ пры жыцці яго гаспадара, — пішуць у кнізе водгукаў адны з першых наведвальнікаў музея Янка Брыль і Анатоль Вялюгін. — Цяпер у Доме-музеі нельга без глыбокага хвалявання думаць пра незабыўнага дзядзьку Якуба. Ён назаўсёды з намі, але тут светлая памяць яго напаўняецца асаблівым зместам...

Добра папрацавалі супрацоўнікі, арганізатары Дома-музея. Дзякуем!"

І самая большая пахвала ў гэтым запісе належыць галоўнаму заснавальніку музея — старэйшаму сыну паэта, заслужанаму работніку культуры Беларусі Данілу Міцкевічу. Ён быў яго першым стваральнікам, працаваў з мастакамі-афарміцелямі над экспазіцыяй, з свайго ўласнага архіва перадаў музею каштоўныя фотаздымкі, дакументы, рэдкія выданні твораў.

За час адкрыцця музей папоўніўся творамі паэта ў перакладзе на замежныя мовы. Лепшыя прыклады паэзіі, прозы і драматургіі класіка беларускай літаратуры можна чытаць на албанскай, англійскай, балгарскай, венгерскай, іспанскай, італьянскай, кітайскай, мангольскай, нямецкай, польскай, румынскай, фінскай, чэшскай мовах.

Вялікую дапамогу музей аказвае школам рэспублікі, бібліятэкам, клубам. У гэтым немалая заслуга новага дырэктара Зінаіды Камароўскай.

Нямала клопатаў патрабавала прывядзенне ў належны стан мясцін, звязаных з імем паэта на яго радзіме: Акінчыцаў, Ластка, Альбуці, Смольні. Яны цяпер старанна аберагаюцца.

Пры самым цесным кантакце з музеем да юбілею народнага паэта стварыўся дакументальны фільм пра жыццё і дзейнасць Якуба Коласа па сцэнарыі беларускага пісьменніка Вячаслава Адамчыка.

Супрацоўнікі музея падрыхтавалі і выдалі зборнікі матэрыялаў пра жыццё і творчасць паэта: "Вялікі пясняр беларускага народа", "Жыццё для народа", "У сэрцы народным", "Сэрца пакідаю вам", "Побач з Коласам", альбом "Якуб Колас"; разам з вучонымі ўдзельнічалі ў падрыхтоўцы да выпуску 14-томнага збору твораў пісьменніка.

Выйшлі таксама пласцінкі з музыкай беларускіх кампазітараў на словы народнага паэта, з вершамі Якуба Коласа ў выкананні артыстаў і з запісам голасу класіка беларускай літаратуры.

40-годдзе з дня адкрыцця Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа — сапраўднае свята ў беларускай культуры.

**Мікола ЖЫГОЦКІ,**
**супрацоўнік музея.**

УРАЖАННІ

# БУДЗЬМА РАЗАМ!

**Выйшаў і карыстаецца добрым попытам восьмы том "Беларускага кнігазбору" — "Кастусь Каліноўскі. За нашую вольнасць". Ён у традыцыйна зялёнай вокладцы, бо працягвае другую серыю — "Гісторыка-літаратурныя помнікі".**

● **Васіль ЖУКОВІЧ.**

1

Як вядома, Кастусь Каліноўскі (1838—1864), адна з самых значных гістарычных асоб Беларусі, быў не толькі арганізатарам паўстання 1863 года, але і здольным паэтам, які не паспеў разгарнуць свайго таленту, бліскучым публіцыстам, дальнабачным мысляром. Рыцарам свабоды назваў яго ў сваёй прадмове Генадзь Кісялёў (ён жа і ўкладальнік, аўтар пасляслоўя, перакладаў і каментарыяў).

У кнігу Каліноўскага і пра Каліноўскага ўвайшлі публікацыі "Мужыцкай праўды", "Пісьмаў з-пад шыбеніцы", публіцыстыка ў польскамоўнай прэсе, нешматлікія Кастусёвы лісты, лісты яго брата Віктара, два вершаваныя творы, шматлікія дакументы паўстання.

2

— Каго любіш?

— Люблю Беларусь.

— Так узаемна!

Гэта — пароль паўстанцаў 1863 года. З яго і пачынаецца апрануты ў колер надзеі доўгачаканы том, а завяршаецца ён прасторным (ажно на цэлую сотню старонак) каментарыем і паказальнікам імёнаў. Паміж каментарыем і паказальнікам імёнаў выдзелены асноўныя даты жыцця і дзейнасці К. Каліноўскага і змешчаны слоўнічак паланізмаў, дыялектызмаў, адметных слоў, ужытых у беларускіх тэкстах самавітага і самабытнага нацыянальнага героя, чым зроблена неацэнная паслуга школьнікам і студэнтам, якія, безумоўна, будуць карыстацца ўдала складзенай і сумленна дагледжанай кнігаю. Яе навуковы рэдактар — Язэп Янушкевіч. А кожны том у серыі рыхтаваў Інстытут літаратуры імя Янкі Купалы Нацыянальнай акадэміі.

Выданне разлічана на самае шырокае чытацкае кола. Увогуле яно магло б стаць настольнай кнігай беларускай сям'і, але ж бракуе колькасці асобнікаў (наклад — 5 500)...

3

Кніга рознабакова асвятляе постаць правадыра адчайна-

СПАДЧЫНА

# МЕСТАЧ

## УРЫВАК З К

У 1761 годзе Аляксандр Міхал Сапега даставіў з каралявецкага порта ў свой вялянскі порт на Шчары сукна на 3 000 залатых, солі на 5 300 залатых і розных спажывецкіх тавараў на 2 900 залатых. У Каралявец па Шчары, а потым па Нёману ў той жа год паплыло: жыта на 8 856 залатых, пшаніцы на 588 залатых, пянькі, пакулля і рагозы — на 90 залатых.

У Дзярэчыне і пасля паўвекавога калгаснага ладу збіраюць неблагія ўраджаі.

Пры Сапегах пачынае развівацца жывёлагадоўля. На мурожных лугах пасвяцца пародзістыя англійскія авечкі. Іх трымалі асобна ад мясцовых, а мерыносам саксонскай пароды электарал будавалі нават адмысловыя ўцепленыя кашары. Ёсць сведчанне, што, калі па дзярэчынскіх ваколіцах


Герб Сапегаў.

пракацілася эпідэмія яшчуру, княжацкія эканомы на ратаванне каштоўных мерыносаў не шкадавалі гарэлкі з соллю (якая, як памятаем, прывозілася здалёку). Двойчы на год — у траўні і верасні — авечак, папярэдне памыўшы, стрыглі. Кожны мерынос мусіў развітацца з фунтам (амаль паўкілаграмам) воўны.

Увесну 1794 года дзярэчынскі аканом склаў разнарадку ўсім прыналежным маёнткам аб гуртоўцы жывёлы паводле ўзросту і аб выгане статкаў на летнія выпасы. У дакуменце фігуравалі англійскія ды вялікапольскія авечкі і галандскія каровы. Згодна з другой разнарадкай, толькі ў галоўным маёнтку заставалася зімаваць 100 галоў буйной рагатай жывёлы. Даглядчыкі пільна сачылі, каб пагалоўе было здаровым і прадукцыйным. Для продажу выбракаванай жывёлы ў Дзярэчыне перыядычна наладжваўся адмысловы кірмаш.

Гадавалі ў сапегаўскіх уладаннях і свіней. Паводле інструкцыі, на адкорм кандыцыйнага парсюка з княжацкіх засекаў выдзялялася поўная віленская бочка — каля чатырохсот кілаграмаў — жыта, ячменю, аўсу і грэчкі. Выхад гатовай прадукцыі павінен быў складаць 2 апольцы сала па 50 фунтаў, 40 кілбас па паўлокця кожная, 4 кумпякі і 40 фунтаў тлушчу. Так што наведвальнік аднаго з заезных дзярэчынскіх двароў мог замовіць сабе на вячэру смачную мачанку з свіной каўбаскай, а ў дарогу ўзяць колькі скрылёў падсушанага ў каморы кумпяка, сакрэт прыгатавання якога ў ваколіцах Дзярэчына памятаюць да гэтай пары.

Аляксандру Міхалу Сапегу належалі шматлікія паселішчы на велізарнай тэрыторыі. Калі б задумалі трапіць у яго былыя ўладанні сёння, неабходна было б перасякаць межы трох незалежных дзяржаў — Беларусі, Польшчы ды Украіны. Князь мусіў хоць зрэдку бываць у Вязыні на Валыні, у Ружане і ў Варшаве, дзе на вуліцы Закрочымскай меў палац. І ўсё ж у 1760—1770 гадах ён

Працяг.
Пачатак у № № 32—33.



мужнага паўстання 1863 года на землях Беларусі і Літвы супраць нацыянальнага і сацыяльнага прыгнёту, асвятляе публіцыстычную дзейнасць Кастуся Каліноўскага, дапамагае разабрацца, чаму яму даводзілася выступаць пад імёнамі — Хамуцііус, Віталінэнец, Чарноцкі ды іншымі. Прачытае недасведчаны чытач і пра тое, чаму ён, такі ўмелы, выдатны канспіратар, не змог уратавацца, давведацца імя здрадніка. Цікава распавядаецца ў гэтым выданні і пра тое, хто такая Марыська (Марыя Ямант), якой Кастусь прысвяціў свой верш, і як лёс, а яшчэ — пра шэраг капарытных асоб паўстанцаў, паплечнікаў Каліноўскага.

Вядома, самыя каштоўныя матэрыялы кнігі — публіцыстыка Каліноўскага. Ён пранікнёна размаўляў з родным народам, настойліва тлумачыў прычыны жахлівага становішча беларуса-мужыка і паказваў выйсце з яго. Шчымлівы сэрца, калі чытаеш "Мужыцкую праўду" і "Пісьмы з-пад шыбеніцы".

"Браты мае, мужыкі родныя, — чытаем на апошняй старонцы "Пісьмаў...". — З-пад шыбеніцы маскоўскай прыходзіцца мне да вас пісаці, і можа раз астатні. Горка пакінуць зямельку родную і цябе, дарагі мой народзе. Грудзі застогнуць, забаліць сэрца, — но не жаль згінуць за тваю праўду".

На змаганне за лепшую долю свайго люду Каліноўскі ішоў з Богам у шчырай душы.

4

Прайшло больш за 10 гадоў, як мы, сыны і дочкі Беларусі, перад якой тады адкрываліся перспектывы суверэннай дзяржавы, пералічвалі свае грошы ў Фонд культуры на ўзвядзенне помніка Кастусю Каліноўскаму. За гэты час можна было ўзвесці не адзін помнік нацыянальнаму герою, для якога свабода Бацькаўшчыны была свяшчэннай справай. Але нямаведама, у якую прорву канулі нашыя ахвяраванні, пра якія ўжо ніхто не згадвае... Пра гэта думалася, калі ў дыпламаце ляжала нябытае новае выданне "Беларускага кнігазбору". Цудоўнае выданне! А чым і не помнік? Выдатны помнік! Ці, больш дакладна, варыянт помніка.

Зноў жа спатрэбіліся ахвяраванні. Яны з'явіліся і гэтым разам не распыліліся, не растварыліся, а матэрыялізаваліся, бо трапілі ў добрыя рукі. Дзякуй Богу! І, вядома, шчырая падзяка за чынны ўдзел у выданні кнігі — прадстаўніцтву "Рытм" (генеральны дырэктар М. Вітькоўскі), ЗАТ "Сотвар" (кіраўнік А. Гуркоў) і, вядома ж, фундацыі імя П. Крэчэўскага, спадарам М. Грэбню, А. Данільчыку, Я. Запрудніку, М. Прускаму за пасільную падтрымку. Будзьма разам!

найчасцей жыў у Дзярэчыне. Да гэтага часу адносіцца ўзнікненне ўстаноў, у існаванне якіх сённяшні мястэчковец можа паверыць хіба што з пэўнай доляй іроніі.

Дык вось, паводле праектаў прыдворнага архітэктара Сапе... дэнцыі ў 1778 годзе: "Запрасіў нас князь А. Сапега ў тэатр. Зала была новая, чыстая, дзкарацыі свежыя. Акцёры, падрыхтаваныя з юных сялян і сялянак, сыгралі па-французску аперэтку Русо

**Міхась СКОБЛА**

# ...КОВЫ РЭНЕСАНС

## ...НІГІ «ДЗЯРЭЧЫНСКІ ДЫЯРЫЮШ»

...гаў Яна Самуэля Бэкера, у Дзярэчыне ў 1765 годзе будуецца тэатр, а праз тры гады закладваецца Вайсковая акадэмія. У ёй павінны былі навучацца трыццаць сыноў вышэйшых дзяржаўцаў Вялікага княства Літоўскага.

Дзярэчынскі тэатр спачатку прымяркоўваўся пад летнія палацы, але неўзабаве архітэктар атрымаў заданне рэканструяваць будынак, павялічыўшы сцэну і глядацкую залу. Што ж з сябе ўяўляе тэатр, які меў рэпертуар на працягу амаль трох дзесяткаў гадоў свайго існавання? Тэатральная трупа складалася з 60 чалавек — меў навіта гэткай колькасці акцёраў з дзярэчынскіх і зэльвенскіх рахункаў Сапегі былі выплачаны заробкі ў студзені 1765 года. Разам з прафесійнымі акцёрамі ў спектаклях часам бралі ўдзел і маладыя Сапяжанкі — князь меў чатырох дачок. Не пуставала сцэна і паміж тэатральнымі сезонамі — запрошаныя з Варшавы настаўнікі вучылі юных дзярэчынцаў балетнаму майстэрству.

На жаль, нам невядомыя сведчанні відавочцаў тэатральных пастановак у Дзярэчыне. Але, напэўна, рэпертуар дзярэчынскага тэатра быў падобным да рэпертуару тэатра ружанскага, бо абодва яны належалі аднаму гаспадару.

Вось што запісаў у сваім дзённіку тагачасны літаратар Юльян Урсын Нямцэвіч пасля наведвання ружанскай рэзі-

"La devin village", як мне тады падалося, няблага".

Апошні спектакль, які аўтару гэтых радкоў яшчэ ў школьным узросце давялося паглядзець у дзярэчынскім Доме культуры, называўся "Збянтэжаны Саўка". Сачыць за ўсёй дзеяй мне перашкаджала тое, што ў галоўнай ролі быў заняты дырэктар нашай школы Міхась Януль. Ён вучыў нас нямецкай мове, з цяжкасцю стрымліваючы ў сабе талент вялікага артыста. Я не ўпэўнены, ці карысталася б сёння поспехам опера Жана Жака Русо на дзярэчынскай сцэне, нават калі б з Парыжа прыехаў сам аўтар, які калісьці меў невытлумачальную сімпатыю да Беларусі і збіраўся пераехаць жыць у Белавежскую пушчу. А камедыя Леапольда Родзевіча ішла пры поўным аншлагу і суправаджалася выбухамі рогату, калі збянтэжаны Саўка выседжваў якікі альбо сноўдаўся па сцэне з дзвярыма на плячах. Што ж, у кожнай эпохі свае духоўныя каштоўнасці.

А тады, у другой палове XVIII стагоддзя, на Беларусі пашыраліся ідэі Асветніцтва. У жыцці асобы і грамадства быў абвешчаны прыярытэт асветы, навукі і розуму. Саслоўныя традыцыі саступалі месца звычайным чалавечым пачуццям, як у фінале прыгаданай вышэй оперы Русо. Яе гераіня аспрэчвае каханне гарадскога арыстакрата і вяртаецца ў вёску да свайго суджанага.

З БУДУЧАЙ ЭНЦЫКЛАПЕДЫІ РЭПРЭСІРАВАНЫХ ЛІТАРАТАРАЎ



# ЛІСТ З ТАГО СВЕТУ

● **Леанід МАРАКОЎ.**

Паэт і перакладчык Юлі Таўбін (Юдаль Абрамавіч Таўбін) нарадзіўся 2(15) верасня 1911 года ў горадзе Астрагожск Варонежскай губерні ў сям'і аптэкара. Дакладна пакуль невядома, але верагодней за ўсё ў беларускі горад Мсціслаў Таўбіны пераехалі (магчыма вярнуліся) пасля заканчэння грамадзянскай вайны. Калі ў 1927 годзе Юлі скончыў мясцовую сямігодку, у друку ("Маладняк Каліншчыны", "Чырвоная змена", "Сьвітаньне" і іншых выданнях) ужо пачалі з'яўляцца творы юнага паэта. Гэта былі вершы-спадзяванні, напоўненыя верай у шчаслівую будучыню (тут і далей прыводзяцца вытрымкі з першых варыянтаў твораў паэта):

Нас мільёны... Мы інакшай
Лепшай долі кавалі!
Нашу долю, наша шчасьце
Мы ў жыцьці сабе знайшлі...

Тады ж 16-гадовы паэт асмеліўся адгукнуцца і на прысваенне Якубу Коласу звання "Народны паэт":

Песьня, любая сэрцу юнацкаму,
Разьліваецца ў шэрагі хат...
Прывітаньне-ж табе маладняцкае
Ад дзяцей тваіх — арляняг!

У 1928 годзе Ю. Таўбін паступіў у Мсціслаўскі педагагічны тэхнікум (адначасова становіцца сябрам аршанскай філіі "Маладняка", друкуецца ў аднайменным часопісе філіі). Разам з ім пачалі вучыцца Змітрок Астапенка і Аркадзь Куляшоў (пазней вядомая "тройца мсціслаўцаў").

З паведамлення ў раздзеле "Хроніка" ("Маладняк". 1928. № 6):

"Па прадстаўленню Аршанскай філіі ЦБ "Маладняка" ўхваліла прыняць у склад аб'яднання З. Астапенку, Я. Гоманава і Ю. Таўбіна. Усе азначаныя т. т. на працягу трох гадоў з'яўляіся студыйцамі і выявілі сябе з творчага боку".

З самых маладых гадоў Юлі адчуў сябе менавіта беларускім паэтам (хоць паходзіў з яўрэйскай сям'і):

Люблю свой край, дзе вечары
Ў далёкім небе сцеляць столкі
І промні ранічнай зары
Вітаюць юныя пасёлкі.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Ах, гэты край нізін і круч,
Равы, суглінкавыя пашы...
Табе ў адзнаку — "Беларусь"
Надалі назву продкі нашы...

У Мсціславе юны Ю. Таўбін, нібы здолеўшы зазірнуць за небакрай свайго лёсу, напісаў верш з назвай-прысвячэннем "Сяргею Фаміну" (у 1935 годзе С. Фамін будзе арыштаваны, а ў 1941-м расстраляны як "удзельнік дывярсійнай групы"). З гэтай таўбінаўскай надзвычайнай здольнасцю прадбачыць будучыню сустрэнемся яшчэ неадноічы. Магчыма, сапраўды Ю. Таўбіну, як ён пісаў яшчэ у 1925 годзе ў вершы "Сіня далі...": "Шмат... [што] прачуць // Шмат чаго дараць // Цёмныя ночы // Сьветлыя мары"... Эпіграфам да верша "Сяргею Фаміну" Ю. Таўбін возьме вядомыя радкі Тодара Кляшторнага (у 1937 годзе расстраляны разам з Ю. Таўбіным) "Агаркі зары дагарэлі, // А песні ў душы не згарэць". У гэтым вершы як бы завочна перасякуцца лёсы будучых пакутнікаў сталінскага рэжыму:

Калісьці, ў далёкія годы,
Мы сьнілі цудоўныя сны,
І многа прыгожых мэлёдый
Ўлівалася ў сьпевы вясны.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Я знаю: юнацтва праходзіць,
Як хвалі, сплываюць гады...
На кожным крутым пераходзе
Губляюцца сілы заўжды.

А мы будзем жыць і змагацца,
І слава таму, хто пранёс
Ліхія свае восемнаццаць
Праз замяць жыцьцёвых палос.

У 1929 годзе паспяхова пачатая беларусізацыя спыняецца. Мсціслаўскі педтэхнікум зачыняецца. З. Півавараў адпраўляецца ў Ленінград, а П. Левановіч і "тройца" пераязджаюць у Менск. У сталіцы з Ю. Таўбіным і пазнаёміцца будучы "беларус сярод узбекаў" Сцяпан Ліхадзіеўскі, які потым успамінаў: "Юлі Таўбін... Гэта быў юнак, ад прыроды ўзнагароджаны вялікім паэтычным талентам. Сціплы, добры, таварыскі, чалавечны, ён выклікаў да сябе ўсеагульную любоў і павагу". Пазней Сяргей Грахоўскі таксама адзначыў, што "сярод пісьменнікаў Таўбін быў адметны ад усіх... У свае дзевятнаццаць гадоў ён хадзіў трошкі сагнуты, нібы толькі ўстаў з-за стала. Можа так і было..." Мабыць з апошняга сказа С. Грахоўскі і возьме назву сваёй кнігі ўспамінаў "Так і было", з якой прыведзена гэта вытрымка. У Менску Ю. Таўбін адразу трапляе ў "гушчу падзей" — становіцца членам БелАПП, многа піша, выступае, актыўна друкуецца... Нярэдка працуе ў сааўтарстве са "старымі" сябрамі А. Куляшовым і З. Астапенкам (сумесна ў асноўным робяць пераклады, пішуць пароды, казкі і вершы для дзяцей), "беларускім Пастэрнакам" У. Хадыкам, В. Маракоўым (будучым аднакурснікам), "узвышэнцам" С. Дарожным, "вялікім эрудытам" А. Розным. Апошніх двух чакае аднолькава трагічны лёс: у час другой сусветнай вайны яны загінуць у сталінскіх канцлагерах... Пацвярджэнне актыўнай літаратурнай дзейнасці Ю. Таўбіна можна знайсці ў перыядычных выданнях таго часу:

"15 верасня 1929 года ў Доме пісьменніка (знаходзіўся па вуліцы Савецкай, 68, цяпер кафе "Вясна". — **Л. М.**) адбыўся жалобны вечар памяці П. Труса (таксама вечар памяці, у якім удзельнічаў Ю. Таўбін, адбыўся ў Белпедтэхнікуме. — **Л. М.**), наладжаны БелАППам. Пасля даклада М. Аляхновіча аб творчасці паэта і чытання вершаў Труса выступілі з творамі, прысвечанымі нябожчыку, Маракоў, Каваль, Таўбін, Плаўнік, Вечар. Сабралася шмат слухачоў, галоўным чынам, моладзі" ("Маладняк". 1929. № 10).

"БелАПП рыхтуе да друку калектыўны зборнік вершаў, які мае выйсці ў серыі "Мастацкае слова — масам" (зборнік не выдадзены. — **Л. М.**). У зборніку будзе прадстаўлена творчасць Андрэя Александровіча, Паўлюка Труса, Валерыя Маракова, Уладзіміра Хадыкі, Юлія Таўбіна, Аркадзя Моркаўкі, Алеся Звонака, Алеся Вечара, Зінаіды Бандарынай, Сяргея Фаміна, Ізраіля Плаўніка, Станіслава Шушкевіча і Міколы Хведаровіча. Зборнік выйдзе пад рэдакцыяй т.т. Галавача, Гародні, Аляхновіча, Маракова і Вечара ("Полымя". 1929. № 11—12).

На працягу года Ю. Таўбін удзельнічае ў літаратурных вечарах у БДУ, АБВШ, у клубах чыгуначнікаў, будаўнікоў, дракароў, выступае на агульнаадукацыйных курсах, рабфаках, у вячэрніх школах, прафшколе краўцоў, на заводзе "Эльвод", цагельным заводзе, перад чырвонаармейцамі... Выязджае ў Віцебск, Бабруйск, Мсціслаў, Заслаўе... Уваходзіць (разам з З. Астапенкам, А. Куляшовым, П. Галавачом, В. Маракоўым, С. Шушкевічам, Б. Мікулічам) у арганізаваную пры БелАПП новую творчую брыгаду "Ударны пост"... Здае ў друк зборнік "Краіне" (надрукаваны не будзе, магчыма, па прычыне нацдэмаўскага ўхілу), піша паэму "Гарадок"... Разам з З. Астапенкам рыхтуе зборнік перакладаў дваццаці пяці аўтараў на расійскай мове з паэзіі БелАПП "Песни молодой Белоруссии". Асобна перакладае паэмы П. Труса ("Дзесяты падмурак") і І. Харыка ("Душою і целам"), камедыю А. Безымянскага "Выстрел"... Друкуецца ў "Маладняку", "Полымі", "Узвышшы", расійскіх выданнях... Тады ж Уладзімір Сядура напіша: "З кожным новым творам гэтага аўтара (Ю. Таўбіна. — **Л. М.**) прыходзіцца з вялікім задавальненнем адзначаць бясспрэчны творчы рост паэты" ("Маладняк". 1930. № 4. С. 129).

Паэтычнымі кумірамі Ю. Таўбіна былі А. Пушкін і Г. Гейнэ. Захапленне апошнім, як успамінаў С. Шушкевіч, падзялялі не ўсе: "У вялікім пакоі Дома пісьменнікаў заўсёды было людна. Збіралася сюды большай часткай літаратурная моладзь. І ў гэты дзень расселіся на канапах Змітрок Астапенка і Максім Лужанін, Уладзімір Хадыка і Сцяпан Ліхадзіеўскі, Валерый Маракоў і Юлі Таўбін. Праз нейкую гадзіну прыплялося сюды яшчэ з паўдзесятка вядомых і невядомых літаратараў. Юлій Таўбін меў пад пахаю кіпу кніг. Адна з іх — томік выбраных вершаў Генрыха Гейнэ. Таўбін прачытаў уголас вершы на нямецкай мове. Усе слухалі няўважліва, рэдка хто з прысутных разумеў па-нямецку ("з прысутных разумеў", магчыма, толькі З. Астапенка. — **Л. М.**). Таўбін разгневаўся, адасобіўся ад усіх і маўкліва чытаў сам сабе вершы любімага паэта..."

Увосень 1930 года выходзіць першы зборнік Ю. Таўбіна "Агні". "Матывы вернасці і сяброўства, ролі паэта і паэзіі вызначалі ўнутраны змест яго твораў" (Т. Тарасава). "Але Таўбіну яшчэ не хапае адзінства лірычнай і грамадзянскай тэмы, [хоць] пяро Таўбіна і садзейнічае збліжэнню публіцыстыкі з лірыкай" (Р. Бярозкін). Эпіграфам да зборніка "Агні" Ю. Таўбін узяў наступныя радкі У. Дубоўкі: "Агні гараць, агні гараць над краем...". На гэта звярнуў увагу крытык Н. Кабакоў. У рэцэнзіі на зборнік ён пісаў: "І вось цікава. Паэт, член пралетарскай арганізацыі пісьменнікаў, дае... да сваёй кніжкі вытрымку з заядлага беларускага контррэвалюцыянера паэта Ул. Дубоўкі. Гэта першае, што асабліва кідаецца ў вочы. Па-другое, ва ўсёй кніжцы мы не знайшлі ніводнага слова, дзе гаварылася-б аб партыі, аб рабочым класе, які будуе соцыялізм..." ("Маладняк". 1931. №№ 5—6).

(Заканчэнне будзе).

АДВАРОТНАЯ СУВЯЗЬ

# СПАДЗЯЕМСЯ НА ДОБРЫЯ ПЕРАМЕНЫ

Не часта бываюць у нас здарэнні, якія прыцягваюць агульную ўвагу, а тым больш цешаць нас, падымаюць настрой, уваскрашаюць веру ў святлейшую будучыню Бацькаўшчыны.

Такім здарэннем сталася для Віленшчыны выстава прамысловасці Рэспублікі Беларусь. Яна была прымеркавана да афіцыйнага адкрыцця беларускага пасольства ў Літве, на якім прысутнічалі прэм'ер-міністр Рэспублікі Беларусь Сяргей Лінг, міністры, пасол Уладзімір Гаркун.

Прысутнічалі таксама прэм'ер-міністр Літоўскай Рэспублікі Рамуальдас Паксас, былы прэм'ер-міністр, прафесар Казімера Прунскене, былы прэзідэнт Літвы Альгірдас Бразаўскас, дыпламатычныя прадстаўнікі многіх краін. У час адкрыцця пасольства, як і выставы беларускай прамысловасці, з вялікім поспехам выступіў праслаўлены ансамбль "Песняры", а таксама рэпрэзентацыйны духавы аркестр Літоўскай Рэспублікі.

Беларуская прамысловая выстава стала адметнай з'явай для жыхароў Вільні і бліжэйшых раёнаў. На першым паверсе найбольшага памяшкання сталіцы змясцілася каля сотні стэндаў па розных галінах беларускай прамысловасці, пачынаючы ад парфумерыі ды шпалераў і заканчваючы будаўнічымі агрэгатамі і матэрыяламі. Мноства ўзораў гатовай прадукцыі з галін транспарту і земляробства, палякводства і агародніцтва было выстаўлена на шырокім і прасторным пляцы каля вялізнага спартыўнага будынка.

Больш за тысячу ўдзельнікаў і гасцей выставы зацікаўлена аглядалі МАЗы, лёгкія і магутныя цягачы "Беларус", люксавыя аўтобусы, самазвалы (ад 16 да 40 тон), зручныя сельскагаспадарчыя агрэгаты ды іншую патрэбную селяніну тэхніку. Цэны на гэтыя вырабы былі для сучаснага земляроба і транспартніка даступныя. Не забыліся на выставе і пра лясную гаспадарку Беларусі, экспарт прадукцыі якой дасягае ў апошнія гады значных лічбаў. Прыходзіцца толькі шкадаваць, што вялізны працэнт ляснога экспарту ідзе ў "сырым" выглядзе, нявыгадным у параўнанні з гатовымі вырабамі.

Інфармацыйны аддзел выставы закранаў цікавую і вельмі актуальную праблему "свабодных эканамічных зон" на Беларусі.

Спадабалася і шырокая геаграфія выставы. Апрача сталіцы, былі паказаны дасканалыя ўзоры прадукцыі, выробленай у Гомелі, Маладзечне, Смаргоні, усходніх абласцях.

На заканчэнне свайго візіту прэм'ер-міністр С. Лінг правёў кароткую гутарку з прадстаўнікамі суполак беларускай дыяспары ў Літве, якія прыехалі з Вільні, Вісагінаса, Салечніка, і ахарактарызаваў цяперашняе становішча Беларусі, яе кантакты з сумежнымі дзяржавамі, эканоміку, культуру і асвету.

Пры абмене думкамі і пажаданнямі кіраўнікі беларускіх суполак Літвы засяродзілі ўвагу на няпростым стане, у якім апынулася беларуская школа ў Вільні. Дарэчы, раней тут было 8 беларускіх школ. Вялася гаворка аб тым, што, каб пазбегнуць дэнацыяналізацыі, трэба адкрыць на тэрыторыі Літвы хаця б дзесяць дзіцячых садоў і 2—3 сярэднія школы ў адпаведных рэгіёнах. Сёння беларусы Літвы спадзяюцца на перамены да лепшага, бо дэнацыяналізацыя беларускай моладзі не стасуецца з правамі чалавека. Думаецца, Беларусь дапаможа сваёй дыяспары.

**Аляксей АНІШЧЫК.**
Вільня, Літва.

## ЯК ЗАРЫЕНТАВАЦЦА Ў ЗША?

Добры дзень, паважаная рэдакцыя!

Выбачайце, што пішу вам па-руску. На жаль, я слаба валодаю беларускай граматыкай, а таму не хачу крыўдзіць вас сваёй непісьменнасцю. Усе мы дзеці савецкай эпохі, і толькі некаторыя з нас пачынаюць успамінаць, хто яны ёсць на самай справе. Вось і я за гэтыя бурлівыя дзесяць гадоў успомніў, што з'яўляюся этнічным беларусам, але веданне беларускай мовы прыходзіць не адразу. Я ўжо пачынаю больш-менш размаўляць і, спадзяюся, у бліжэйшы час парадаваць самога сябе поспехамі ў пісьмовым накірунку. Ваша газета, як і многія "беларускамоўныя" выданні, вельмі дарэчы для такіх, як я, што жадаюць самавызначыцца з размытага стану "грамадзянін" у канкрэтную прыналежнасць да этнасу, які дадзены Богам, продкамі, бацькамі. Дзякуй вам за гэтую высакародную місію!

Пішу вам гэта пісьмо яшчэ па адной прычыне. Не ведаю, ці зможаце вы мне дапамагчы і ці валодаеце вы гэтак неабходнай мне інфармацыяй. Але паспрабую растлумачыць усё па парадку.

У бліжэйшы час я ад'язджаю ў ЗША. Буду шчыры з вамі: далася мне гэтая гасцявая віза нялёгка, як гаворыцца, шчасце для таго і дадзена людзям, каб у поўнай меры ацаніць шлях да яго. На чужбіне, а менавіта ў ЗША, у мяне няма ні родных, ні знаёмых — еду, як "у белы свет", з адным энтузіязмам на сэрцы і палкім жаданнем змяніць сваё жыццё да лепшага. Вядома, гэтага вельмі мала, каб правільна зарыентавацца на "замежнай" мясцовасці. Ведаю, што ў буйных гарадах ЗША, такіх, як Нью-Йорк, Кліўленд, Чыкага, існуюць і паспяхова працуюць "управы аб'яднання беларусаў свету "Бацькаўшчына". У мяне да вас пытанне-просьба. Калі вы валодаеце такой інфармацыяй, дык ці не маглі б падзяліцца ёю са мной — патэнцыяльным вандроўнікам? Мне хацелася б мець у запісной кніжцы адрасы і нумары тэлефонаў офісаў гэтай арганізацыі. Вас не абцяжарыць, калі, па магчымасці, вы паспрабуеце даць звесткі па трох гарадах: Чыкага, Кліўленд, Нью-Йорк?

З павагай

**Ігар СУРНАЧОЎ.**
г. Магілёў.

*АД РЭДАКЦЫІ.* **Наконт існавання ў вышэйадзначаных гарадах ЗША "ўпраў аб'яднання беларусаў свету "Бацькаўшчына" нам пакуль нічога невядома. Падаем адрасы і тэлефоны мясцовых беларускіх арганізацый:**

**Чыкага: Беларускі каардынацыйны камітэт,**
**старшыня Вера РАМУК.** **P. O. Box 34022**
**Chicago, Illaois**
**60634, USA**

**Беларуска-амерыканская нацыянальная рада ў Чыкага**
**1500 North Maplewood,**
**Ave Chicago, IL 60622**

**Нью-Йорк: Беларуска-амерыканскае задзіночанне БАЗА,**
**старшыня Антон ШУКЕЛОЙЦ** **Bothie Drive**
**Jamaica WLL 11432**
**tel 212-777-8224**

**Кліўленд: Беларуска-амерыканскі грамадскі цэнтр "Полацак"**
**11022 Webster Road**
**Strongsville** **216-572-3008**
**Ohio 44136** **216-781-7231**

СЯБРОЎСКІЯ СТАСУНКІ




**Курган Дружбы, насыпаны 40 год назад на стыку трох дзяржаў — Расіі, Беларусі і Латвіі, стаў месцам правядзення восьмага Міжнароднага маладзёжнага лагера. Арганізатарамі лагера выступілі Саюзы моладзі трох рэспублік.**
**НА ЗДЫМКУ: на канцэртнай пляцоўцы лагера.**

БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ

# «МЫ БЕЖАНЦАЎ СВАІХ НЕ ПАКІНЕМ!»

Упершыню бежанскае пытанне на дзяржаўным узроўні паўстала на I Усебеларускім з'ездзе (кангрэсе), які праходзіў 5—17 снежня 1917 года ў Мінску. Па прапанове А. Цвікевіча (у той час кіраўніка бежанскай секцыі з'езда) быў абраны выканаўчы камітэт дапамогі бежанцам.

Раней за іншых арганізаваўся і распачаў сваю дзейнасць Беларускі Нацыянальны Камісарыят у Адэсе. Яго кіраўнік Антон Баліцкі паведамляў: "... ва ўсёй Адэскай акрузе, па звестках, сабраных Беларускім Нацыянальным Камісарыятам у Адэсе (далёка не поўных), лік беларусаў, улічваючы бежанцаў, дасягае больш за 100 000. (...) Амаль усе бежанцы-беларусы ў Адэсе маюць работу, шмат хто з іх добра працаўладкаваўся, але пры першай магчымасці жадаюць вярнуцца на радзіму". У склад БНК уваходзіў аддзел па эвакуацыі бежанцаў-беларусаў на чале з упаўнаважаным П. Гудзенем. Беларускі консул у Адэсе Сцяпан Некрашэвіч у справаздачы ад 6 жніўня 1918 года паведамляў, што бежанскае пытанне набыло дзяржаўны статус і нават знойдзены сродкі на рээвакуацыю беларусаў.

Дэмабілізаваныя з Румынскага фронту беларусы-вайскоўцы, па сутнасці, таксама з'яўляліся бежанцамі, бо ні жылля, ні магчымасці вярнуцца дадому ў іх не было. БНК стварыў для вайскоўцаў часовы прытулак — Этапна-канцэнтрацыйны пункт.

Такім чынам, за 1918—1921 гады Камісарыят, а потым Консульства ў Адэсе дапамаглі рээвакуіравацць звыш 4 тысяч беларусаў. Трэба дадаць, што з усіх іншых краін, дзе воляй лёсу апынуліся беларусы, на Украіне іх становішча было найлепшым.

Свой прытулак беларусы знайшлі ў дзяржавах Прыбалтыкі, Скандынавіі, Чэхаславакіі, Балгарыі, Германіі, Турцыі і інш. Не ўсюды бежанцам пашанцавала. Кепскае становішча беларусаў адзначалася ў Балканскіх краінах. У сталіцы Балгарыі Сафіі па стану на 25 ліпеня 1922 года знаходзілася каля 400 беларусаў. Некаторыя з іх трапілі сюды яшчэ ў канцы 1920 года з часцямі арміі генерала Урангеля, іншыя — праз Турцыю. Увосень 1921 года было створана бюро, дзе беларусы мелі магчымасць карыстацца літаратурай на роднай мове і набываць інфармацыю аб падзеях на Бацькаўшчыне. Першую дапамогу аказвалі адзеннем, невялікімі матэрыяльнымі сродкамі дабрачынныя арганізацыі (Чырвоны Крыж, В. Земскі Саюз і інш.). Частка беларускай моладзі набывала веды ў Сафійскім універсітэце, але заняткам часцей за ўсё перашкаджала матэрыяльная нястача, трэба было зарабляць грошы на жыццё і плаціць за наведванне лекцый.

Вялікую дапамогу па вяртанню беларусаў на радзіму аказаў камісар Лігі Нацый па справах бежанцаў у Балгарыі мітрапаліт Стэфан, які забяспечыў іх бесперашкодны выезд з Балгарыі ў Беларусь.

Значна лепш за Балгарыю было становішча беларусаў у Сербіі. У матэрыяльных адносінах нават нядрэннае, бо шмат хто здолеў пападацца на прыватную службу або пражываў у рускіх калоніях на сродкі сербскага ўрада.

Вялікая колькасць бежанцаў апынулася ў Турцыі. Апеку над імі ўзяло заснаванае ў маі 1921 года беларускае Генеральнае консульства ў Канстанцінопалі на чале з палкоўнікам Іванам Ермачэнкам. У справаздачах ураду ён адзначаў становішча беларусаў як самае жудаснае, выказваў неабходнасць хуткай дапамогі. На 21 красавіка 1921 года ў Канстанцінопалі налічвалася 12 тысяч выхадцаў з Беларусі, трэцяя частка з іх — яўрэі, якія знаходзіліся ў стане бежанцаў. Акрамя сталіцы Турцыі, беларусы пражывалі на астравах Лемнас, Кіпр і ў горадзе Галіпалі. За кароткі час сваёй працы (да сярэдзіны 1923 года) Ермачэнка паспеў зрабіць шмат карыснага ў вырашэнні бежанскага пытання. Згодна з яго дакладамі і рапартамі, "вылічаны ўсе беларусы, якія знаходзяцца ў Канстанцінопалі і яго ваколіцах; адчынены інтэрнат на 40 чалавек для беларусаў", а таксама 6 390 чалавек размешчаны па 10 лагерах бежанцаў.

Найбольш спрыяльныя адносіны беларусы сустрэлі ў Празе (Чэхаславакія), дзе з 1919 года дзейнічала таварыства "Беларуская грамада", якое аб'ядноўвала больш за 150 студэнтаў.

На жаль, колькасць беларусаў у Югаславіі дакладна невядомая, бо бежанскія калоніі былі раскіданы па ўсёй краіне і адсутнічаў адзіны цэнтр. Аднак існавала "Ініцыятыўная група беларусаў Югаславіі" (старшыня Яўген Жыдкоў), якая стварыла "Беларускую Раду".

Нягледзячы на шматлікія захады, Германія афіцыйна не прызнала ўрад Беларусі, але прыхільна ставілася да беларускага нацыянальнага руху. У Берліне дзейнічала дыпламатычная місія на чале з Л. Зайцам, потым А. Бароўскім. Прысутнасць у Германіі значнага ліку інтэрніраваных войскаў дала магчымасць місіі вылучыць сярод іх беларусаў. Напрыклад, у лагеры Ліхтэнгорст было 300 беларусаў.

Такім чынам, вырашэнне бежанскага пытання, нягледзячы на неспрыяльныя палітычныя і эканамічныя ўмовы, упершыню стала адным з напрамкаў знешнепалітычнай дзейнасці ўрада Беларусі.

**Уладзімір КУШМІРАЎ,**
**галоўны архівіст**
**Нацыянальнага архіва**
**Рэспублікі Беларусь.**

ЖЫЦЦЁВЫЯ СЮЖЭТЫ

# ЛЮБОЎ У ДЗЕЯННІ

(Заканчэнне. Пачатак на 3-й стар.).

Ён быў звязаны з дзіцячай сардэчнай хірургіяй. Нам удалося арганізаваць прыезд у Беларусь каманды ўрачоў, што складалася з трыццаці сямі чалавек. Яны працавалі ў дзіцячым хірургічным цэнтры першай мінскай клінікі на працягу дваццаці дзён.

Да гэтага мы працяглы час займаліся пошукам па ўсіх Злучаных Штатах кардыёлагаў — высокакласных спецыялістаў у галіне сардэчнай хірургіі (у прыватнасці, па правядзенню такіх складаных аперацый, як выпраўленне прыроджанага пароку сэрца), якія б выказалі жаданне прыехаць сюды і аказаць дапамогу хворым беларускім дзецям. Такія спецыялісты знайшліся, але пры ўмове, што іх паездка і знаходжанне ў Беларусі будуць аплачаны. Амерыканская кампанія "Верайтэ клаб" згадзілася аплаціць авіябілеты. Каля сарака медыцынскіх кампаній паклапаціліся, каб неабходныя медыкаменты і абсталяванне паступілі ў Беларусь.

Самае галоўнае, ажыццяўленне гэтага праекта дапамагло зберагчы жыцці 27 беларускіх дзяцей. Семнаццаць чалавек да гэтага бацькі вазілі ў Маскву, дзе атрымалі заключэнне: аператыўнае ўмяшанне немагчымае. На шчасце, амерыканскім спецыялістам удалося даказаць адваротнае.

Пасля ад'езду кардыёлагі пакінулі ў цэнтры неабходныя матэрыялы і абсталяванне для ажыццяўлення аперацый такога ўзроўню, якія можна было праводзіць яшчэ на працягу двух месяцаў.

**— Беларускія ўрачы паспелі асвоіць тэхніку правядзення падобных аперацый!**

— Так, яны навучыліся гэта рабіць. Але маюць патрэбу ў спецыяльных матэрыялах.

Цяпер у Беларусі ў чарзе на аперацыю — каля дзвюх тысяч дзяцей з дэфектамі сэрца.

**— Хочацца спадзявацца, што ваша місія, дзякуючы падтрымцы беларускага боку, зможа рэалізаваць усе свае пачынанні.**

— Наша місія працягвае супрацоўніцтва з Міністэрствам аховы здароўя. Сёлета ў Беларусь прыязджала новая каманда амерыканскіх урачоў.

У маіх планах — правядзенне ў адным з беларусіх медыцынскіх інстытутаў цыкла лекцый па стаматалогіі з мэтай падзяліцца амерыканскім вопытам. Я спадзяюся атрымаць дазвол у аўтараў у ЗША і перакласці на рускую мову амерыканскі падручнік па стаматалогіі для беларускіх студэнтаў.

**На пытанне, як Клайну і яго сям'і жывецца ў Беларусі, адказала яго абаяльная жонка і памочніца Сьюзен:**

— Нам вельмі падабаецца Беларусь, яе цудоўная прырода. Мы жывем тут у такіх умовах, якія вельмі добрымі могуць лічыцца для беларусаў, аднак непараўнальныя з тымі, адкуль мы прыехалі, але для нас гэта не галоўнае. Мы не зведваем асаблівых цяжкасцей тут, таму што нас акружаюць добрыя людзі.

Трое нашых дзяцей — Эрын, Закры і Кетлін пасля вучобы ў адной з мінскіх агульнаадукацыйных школ наведваюць прыватную школу. Там выкладаюцца англійская, беларуская і руская мовы. А самая малодшая дачка — Лівія ходзіць у беларускі дзіцячы сад.

***Вось так жыве вялікая і дружная амерыканская сям'я ў Мінску — Клайн і Сьюзен, іх двое хлопчыкаў і дзве цудоўныя дзяўчынкі (а таксама сабакі Каця, Долі, кацяняты Тэд, Кул, Кісі і вожык Джордж), дапамагаючы беларускім дзецям і дарослым пераадольваць хваробы, набываць здароўе і сілы, верных сяброў. Яны спадзяюцца на лепшае і вераць, што ў Беларусі, нягледзячы на цяперашнія цяжкасці і праблемы, цудоўная будучыня.***

**Наталля НАВІЦКАЯ.**



АСОБА

# РЭКВІЕМ

**Ніхто, відаць, ніколі не зможа расказаць, як маці-прырода размяркоўвае талент сярод сваіх выбраннікаў. Талент! Вялікі талент з яго інтуітыўнымі імпульсамі ў адборы таго, што сёння вымагае ад цябе тваё мастацтва, а потым і ў сінтэзе назапашанага. Менавіта такі быў уласцівы Соф'і Гурыч.**

**Некалькі месяцаў таму пасля цяжкай хваробы яна, вядомая актрыса, рэжысёр, легенда радыё, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі, пайшла з жыцця. Часцей за ўсё здараецца так, што даніну памяці і павагі мы аддаем тады, калі ўжо чалавека з намі няма.**



*С. ГУРЫЧ і артысты А. МАЗЛОЎСКІ, А. ПАМАЗАН, Г. БАЛЬЧЭЎСКАЯ, Б. БАРЫСЁНАК, Ю. АВЯР'ЯНАЎ на рэпетыцыі радыёспектакля.*

Яе творчы шлях успрымаецца як ланцужок, што звязаў ідэалы зачынальнікаў новага Беларускага радыё і іх вучняў, якія працуюць і па сёння.

Кожны раз, калі наша радыё запрашала на чарговую прэм'еру свайго тэатра, аматары мастацкага слова адкладвалі ўбок свае справы і спяшаліся да прыёмнікаў. З кожным спектаклем усё больш і больш прыцягвала да сябе адданых прыхільнікаў нябачная "сцэна". Здзіўляючай, парадаксальнай уласцівасцю валодаў радыётэатр Гурыч: яго нябачныя вобразы былі часам больш аб'ёмныя, шматгранныя, чым убачаныя на экране або на сцэне. Тлумачыць гэта можна, відаць, некаторай незавершанасцю, пластычнай хітрасцю вобразаў — перад намі нібыта накід асобы, характараў, які ахвотна дамалёўвала наша ўяўленне. Мы, слухачы, тут былі больш ымі саўдзельнікамі творчага працэсу, чым, скажам, у тэатры або кіно.

Увогуле, вызначальнай рысай Соф'і Гурыч як рэжысёра была прага першаадкрыцця. Менавіта яна ажыццявіла першае сцэнічнае ўвасабленне рамана "Глыбокая плынь" І. Шамякіна ў Гомельскім абласным драматычным тэатры, празорліва ўгадаўшы драматычную насычанасць яго прозы. Прэм'ера адбылася ў 1956 годзе і тады ўжо атрымала шырокі рэзананс у прэсе, прызнанне гледачоў. Гэта прэм'ера паклала пачатак шматгадовай творчай дружбы Соф'і Якаўлеўны з Іванам Шамякіным. Ніводзін твор пісьменніка не прайшоў паза ўвагай рэжысёра.

Многім творам беларускіх пісьменнікаў дала жыццё на "сцэне" радыётэатра Соф'я Гурыч. Гэта "Векапомныя дні" Міхася Лынькова, "Мінскі напрамак" і "Завеі, снежань" Івана Мележа, "Вецер веку" І. Гурскага, "Пайсці і не вярнуцца" і "Жураўліны крык" Васіля Быкава, "Суд у слабадзе" і "Неруш" В. Казько, "Новая зямля" Якуба Коласа і "Мікалай Дворнікаў" Максіма Танка, "Самы высокі паверх" А. Савіцкага і "Песня Дзвіны" Т. Хадкевіча, "Грыбная восень" І. Шклярэўскага і "Рудабельская рэспубліка" паводле Сяргея Грахоўскага. Гэты спіс можна доўжыць бясконца, таму што рэжысёр і інсцэніроўшчык на радыё Соф'я Гурыч ажыццявіла больш за 200 пастановак радыёспектакляў пераважна па творах беларускіх празаікаў, паэтаў і драматургаў. Вельмі многія майстры мастацкага слова знайшлі менавіта ў яе асобе пасапраўднаму зацікаўленага, вельмі чулага, прафесійнага і творчага інтэрпрэтатара сваіх твораў. Пад яе кіраўніцтвам творчы калектыў радыётэатра стаў лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі БССР 1984 года, што, безумоўна, з'явілася грамадскім прызнаннем вялікай творчай працы, якую вяло радыё па прапагандзе здабыткаў беларускай літаратуры, прызнаннем самога жанру радыёспектакля, які з кожным годам набіраў сталасць і вышыню, высокай ацэнкай таго ўкладу, што зрабіла ў яго развіццё і ўдасканаленне асабіста Соф'я Гурыч.



*1940 год. Жаночы састаў ТЮГа віншуе Е. МІРОВІЧА з прысваеннем звання народнага артыста БССР (С. ГУРЫЧ у цэнтры злева).*



*У вольны час з сябрамі.*

А пачыналася праца на радыё яшчэ ў тыя далёкія ваенныя часы, калі ў лясных зямлянках, у тайных сховішчах настройвалі народныя мсціўцы прыёмнікі на хвалю 1 724 метры, каб пачуць слова праўды, якое несла ім радыёстанцыя "Савецкая Беларусь". Вось што ўспамінае пісьменнік Уладзімір Юрэвіч, які працаваў тады дыктарам: "Мне быў патрэбны прафесіянальны памочнік. І як жа я быў узрадаваны, калі да нас прыйшла Соф'я Гурыч, актрыса даваеннага Беларускага тэатра юнага гледача, за плячамі якой была выдатная акцёрская школа ў Ленінградзе, першыя поспехі на тэатральнай сцэне. Маладая актрыса цудоўна адчувала слова. Памятаю, як зусім па-новаму загучаў верш Янкі Купалы "Беларускім партызанам", калі мы яго чыталі ўдваіх. Гэты верш на працягу ўсёй амаль трохгадовай дзейнасці радыёстанцыі "Савецкая Беларусь" быў заўсёды нашым спадарожнікам. Як лістоўку, як пароль, выдавалі мы яго ў эфір ледзь не ў кожнай перадачы..."

Калі я аднаўляла старонкі творчага летапісу Гурыч, немагчыма было не сустрэцца і не пагаварыць з людзьмі, якія добра ведалі Соф'ю Якаўлеўну і якія назаўсёды засталіся яе добрымі сябрамі і паплечнікамі. Сярод іх вельмі шмат знаёмых з дзяцінства імёнаў і нейперш — народная артыстка Беларусі Зінаіда Браварская.

У час нашай сустрэчы Зінаіда Іванаўна вельмі цікава расказвала пра тэатр, акцёраў, рэжысёраў, пра свой асабісты творчы шлях і пра сустрэчу з Соф'яй Якаўлеўнай: "...Першая сустрэча адбылася ўжо ў Мінску недзе ў 1937 годзе, калі на базе выпускнікоў спецыяльнага беларускага курса Ленінградскага цэнтральнага тэатральнага вучылішча быў адкрыты Тэатр юнага гледача БССР імя Н. Крупскай, дырэктарам якога быў прызначаны вядомы беларускі рэжысёр і педагог, народны артыст БССР Еўсцігней Міровіч. Па запрашэнню Міровіча я прыехала з Масквы, а Сонечка — з Ленінграда. Міровіч адбіраў акцёраў на свой густ. Ён вельмі цаніў у акцёрах індывідуальнасць, патрабавальнасць да сябе. Менавіта такія якасці былі ўласцівыя Соф'і Якаўлеўне. Маленькая, з ладнай фігуркай, з вачыма, поўнымі агню і рашучасці, заўсёды гатовая да дзеянняў, апантаная і непрадказальная, яна была выдатнай артысткай. Яе гераіні — натуры валявыя і энергічныя. Яркія і запамінальныя вобразы стварыла Гурыч у спектаклях для дзяцей і юнацтва, сярод якіх найбольш значнымі сталі Валя Бruзжак у "Як гартавалася сталь" паводле М. Астроўскага, Жэня Шаўрова ў "Блакітным і ружовым" А. Бруштэйна, Маленькая разбойніца ў "Снежнай каралеве" Я. Шварца, Зербінета ў "Хітрыках Скапэна" Ж. Б. Мальера. Але лепш у яе атрымліваліся ролі ў жанры травесці — гэта роля хлопчыка Макса ў спектаклі "Гады выпрабаванняў" (Е. Міровіч, Ю. Палічынецкі), Шурыка ў спектаклі "Казка" (М. Святлоў), Антона ў спектаклі "Старыя сябры" і шмат іншых".



*Е. Міровіч вельмі цаніў у акцёрах індывідуальнасць. Гераіні Соф'і ГУРЫЧ — натуры валявыя, энергічныя.*

Крышачку пазней адбылася ў мяне сустрэча на радыё з яшчэ адным шаноўным чалавекам, які добра ведаў і вельмі шмат працаваў з Соф'яй Якаўлеўнай. Гэта ўсім вядомы народны артыст Беларусі Павел Дубашынскі.

Таленавіты чалавек, як правіла, не стаіць на адным месцы. І, пайшоўшы далей, Соф'я Гурыч знайшла сябе ў рэжысуры. Беларускае слова ў яе пастаноўках было таямнічым, гучным, шматгранным. Рэжысура стала яе прызваннем. Выдатныя акцёры тэатраў Беларусі з вялікай удзячнасцю і задавальненнем працавалі з Соф'яй Гурыч. Сярод іх Леанід Рахленка, Марыя Захарэвіч, Лілія Давідовіч, Генадзь Аўсяннікаў, Генадзь Гарбук, Валянцін Белахвосцік, Мікалай Яроменка, Здзіслаў Стома, Зінаіда Браварская, Марыя Зінкевіч і іншыя.

На працягу доўгіх гадоў сумеснай працы над радыёпастаноўкамі складваўся асноўны касцяк выканаўцаў, акцёраў-аднадумцаў, якія любілі і любяць, разумелі і разумеюць мастацтва радыётэатра і, нягледзячы на цяжкасці (адсутнасць самастойнай трупы, асобнага памяшкання для рэпетыцый), заўсёды зацікаўлена, самаахвярна працавалі над радыёролямі. Інакш не сталі б вяршынямі ў творчай спадчыне Соф'і Гурыч радыёспектаклі "Хамуціус" паводле А. Куляшова і "Рыбакова хата" паводле Я. Коласа, адзначаныя Дзяржаўнай прэміяй БССР.

Яна валодала рэдкаснымі для нашага часу якасцямі, любіла людзей, іх простыя радасці і натуральнае, без хціваcці жыццё, якім павінен жыць на зямлі род чалавечы. Радасці, нягоды яна перажывала найперш з пачуццём уласнай годнасці і нязменнай павагі да іншых, з верай у непераможнасць дабра і чалавекалюбства, заўсёды застаючыся самой сабою — вельмі патрабавальнай, але і надзвычай чулай. Ва Уладзіміра Караткевіча ёсць цудоўныя радкі: "Не здрадзь! Не здрадзь сабе, чалавек! Не здрадзь зямлі, на якой нарадзіўся!" І яна не здрадзіла ні самой сабе, ні тым, з кім працавала, сябравала, ні свайму лёсу, ні той зямлі, на якой нарадзілася і тварыла. І няхай радкі гэтага артыкула пра творчую спадчыну Соф'і Гурыч прагучаць рэквіемам выдатнаму майстру беларускага слова.

**Таццяна ЛАПКОЎСКАЯ.**



*Лепш за ўсё ў ТЮГу ў Соф'і ГУРЫЧ атрымліваліся ролі ў жанры травесці.*

**ДЭБЮТ**

**Юра Радноў скончыў 8 класаў сярэдняй школы № 210 Мінска. Творчасцю займаецца з ранняга дзяцінства. Свой першы вершык склаў у чатыры гады і папрасіў, каб мама запісала. А летась перамог у гарадскім конкурсе юных літаратараў, адзначаны дыпломам першай ступені. Ён таксама стаў дыпламантам Рэспубліканскага конкурсу маладых літаратараў, які праводзіўся ў Брэсце.**

**Хлопчык любіць ляпіць з пластыку казачных герояў, шыць аб'ёмныя лялькі, іграць на баяне і гармоніку. Зараз найбольш часу аддае маляванню карыкатур.**

**У жыцці Юра гарэзлівы, але вельмі сціплы і любіць сябраваць з тымі, хто мае добрае сэрца і прагне творчасці. Можа, каго зацікавяць працы Юрася Раднова — хай напіша. Ён будзе вельмі рады сяброўству.**



**Юра РАДНОЎ**

* * *

Ранкам сонейка расу
Выпіла знянацку.
Я у прыгаршчах нясу
Промнік заліхвацкі.

Раптам ён з далоняў — скок,
Быццам хоча танчыць,
На галінку, на лісток —
Хоча ўсіх убачыць.

На галінцы загушкаў
Ён сябе і брата.
І прасцінкай потым стаў
Жоўтаю багатай.

## ЛУГАВЫЯ КАЗАЧНЫЯ КВЕТКІ...

Лугавыя казачныя кветкі
Завялі сімфонію сваю.
Ну а конік спрытны гэткі,
Быццам падпявае салаўю.

І бярозы хорам заспявалі,
Дуб магутным басам зацягнуў.

Збажыны бурштынавыя хвалі
Гойдалі мелодыю адну.

Слухаю я іх, адлачываю
Целам і акрыленай душой.
Я цябе, прырода, бласлаўляю
За хрышчэнне музыкай сваёй.

* * *

Каб чалавека зразумець —
Навошта словы.
Бо неабходна толькі ўмець
Рабіць высновы
Па іх учынках...

## ...І ПАСЛУХАЦЬ АД КВЕТАК БЫЛІНЫ

На дзівосных і вольных мясцінах
Разнаколерны вытканы луг.
Што ён тоіць у кветках? Быліны?
Ці нашчадкаў узвышаны дух?

Кветкі з ветрыкам песні співаюць.
Я іх чую і зблізку, здалёк,
А травінкі, бы скрыпачкі, граюць,
І танцуе для ўсіх матылёк.

Песні гэтыя льюцца спрадвеку,
Напаўняючы змест дабрынёй.
Яны лечаць душу чалавека
Верай, праўдай, надзеяй адной.

На дзівосных і вольных мясцінах
Так і хочацца сэрцу спачыць,
І паслухаць ад кветак быліны
Пра мой край беларускі —
адзіны, —
Які я не стамлюся любіць.







## НА ПЛЫЦЕ З... 600 ПЛАСТЫКАВЫХ БУТЭЛЕК — У РЫГУ

Арыгінальную акцыю задумалі пяцёра віцяблян, членаў творчай асацыяцыі "Заходняя Дзвіна". Яны збудавалі плыт з 600 пластыкавых бутэлек і накіраваліся на ім па Заходняй Дзвіне.

Мэта вандравання — прыцягнуць увагу да праблемы абмялення і забруджвання ракі. Канчатковым пунктам пяцідзённай экспедыцыі павінна стаць сталіца Латвіі — Рыга.






НА ЗДЫМКАХ: у дарогу; удзельнікі экспедыцыі Вадзім СЦЕПАНОВІЧ, Сяргей НОВІКАЎ, Васіль БРУС, Ігар НЕСЦЕРАЎ і Ігар ВЫСОЦКІ.

Фота Аляксандра ХІТРОВА, БелТА.

**ДІЦЯЧАЯ ЧЫТАНКА**

# ВАДЗЯНІК

Нашыя далёкія продкі верылі, што ўсё ў навакольным свеце мае жывую душу, таму яны былі ўпэўнены, што побач з імі жывуць такія незвычайныя істоты, як Дамавікі, Пярун, Русалкі, Вадзянікі... Вадзяніка ўяўлялі старым дзедам з доўгай барадой, гладкай бліскучай скурай і непрапарцыянальна доўгімі нагамі, на якіх між пальцамі былі перапонкі. Кожны вадаём —возера гэта, рака ці калодзеж —мае свайго Вадзяніка, але жыве ён толькі ў вадзе, якая зімой не замярзае, гэта нібыта звязана з тым, што лёд растае ад подыху Вадзяніка. На працягу дня гэты водны гаспадар звычайна ляжыць, распластаўшыся, на дне і толькі пасля захаду сонца пачынае сваю дзейнасць. Вадзянік можа і жартам, і са злосці пужаць рыбу каля сетак рыбакоў, раз'язджаючы на сваім любімым "кані" — соме, рве і выварочвае сеткі і іншыя прылады, раскрывае плаціны на млынах, уважліва сочыць за тымі, хто купаецца. Сваю ахвяру Вадзянік хапае за ногі і, зацягнуўшы на дно, топіць (асабліва небяспечна купацца і лавіць рыбу, на думку сялян, апоўдні і апоўначы). Яго ахвяры — мужчыны становяцца такімі ж Вадзянікамі, а жанчыны — Русалкамі.

Калі ж Вадзянік толькі жартуе і забаўляецца, можна ўбачыць, як у тым ці іншым месцы нечакана заклубіцца вада, пачнуць разыходзіцца кругі, а ўначы, пры ціхім надвор'і, ён моцна пляскае далонямі па паверхні вады і палохае гучным рогатам людзей.

Аднак Вадзяніку нельга доўгі час знаходзіцца на сушы: калі з яго цела сцячэ вада і высахнуць ціна і водарасці, што пакрываюць яго, Вадзянік хутка пачынае губляць абрысы, не можа вярнуцца ў ваду і гіне. Маленькая купка ціны і водарасцяў — усё, што застаецца ад Вадзяніка. Але калі гэтыя рэшткі будуць падхоплены вадой ці ўкінуты ў ваду чалавекам, Вадзянік аджывае і ў апошнім выпадку застаецца ўдзячным за сваё выратаванне. Чалавек, які выратаваў Вадзяніка, ніколі не патоне: Вадзянік абавязкова выштурхне яго на неглыбокае месца і пазней будзе выказваць падзяку — напрыклад, заганяючы рыбу ў сетку свайго выратавальніка.

**Падрыхтавала Нэлі ПРЫВАЛАВА.**

**СМЯШЫНКІ**

— Не бойся, маленькі, дзядзька доктар нічога табе не зробіць.
— Тады навошта мы да яго прыйшлі?

* * *

Каця спрабуе зацягнуць нітку ў іголку, але нічога не атрымліваецца.
— Запалі свяхло, — просіць яна бабулю.
— Навошта днём святло? Хіба ты не бачыш вушка ў іголцы?
— Я бачу, але нітка не бачыць.

* * *

— Тата, а ты зможаш пісаць у цемры?
— Думаю, што змагу.
— Тады патушы святло і падпішы мой дзённік.

**ЗАГАДКІ**

— У вадзе не тоне, у агні не гарыць, зімой не замярзае.
**Цень**

— Рук многа, а нага адна.
**Дрэва**

— Хоць у капелюшы, але галавы не мае.
**Грыб**

* * *

— Не агонь, а пячэцца.
**Крапіва**

— У чырвоным падпечку сядзяць белыя авечкі.
**Зубы**

— Два браткі праз дарогу жывуць, а ніколі не сыдуцца.
**Вочы**

* * *

— Не кароль, а ў кароне, не гусар, а пры шпорах, гадзінніка не мае, а час знае.
**Певень**

— Хто мяне заб'е, той сваю кроў пральє.
**Камар**

— Маленькі, гарбаценькі ўсё поле абскача.
**Серп**



Фота А. ХІТРОВА. БелТА.

**Адразу пяць кветак расцвілі на кактусе ў віцябляніна Леаніда Адамовіча. Тры гады назад гэтую "сярдзітую калючку" падняў ён на лесвічнай пляцоўцы ў пад'ездзе, стаў даглядаць расліну, а яна, у сваю чаргу, аддзячыла Леаніда Іванавіча бела-бэзавым букетам дзіўнай прыгажосці.**

«Голас Радзімы»

Рэдактар
Наталля САЛУК

Заснавальнікі:
Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь; Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі; Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").

Пазіцыі рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.
Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку». (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).
Тыраж 1 625 экз. Індэкс 63854. Зак. 1545.
Падпісана да друку 23.08.1999 г. у 12.00.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.

Наш адрас:
220005, Мінск,
пр. Ф. Скарыны, 44.
Тэлефоны:
(+375-17) 213-31-97,
213-32-80, 213-30-15,
284-76-56, 213-37-82.